...не разбіць, не спыніць, не стрымаць

# Голас Ліды



№ 10 (44) 6 САКАВІКА 2001 г. ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА



**МАНДАТ**

*Аслу раз выдалі мандат, -*
*Няйначай, памылкова.*
*(Такія і ў людзей памылкі – не наўда,*
*але аб іх пасля размова).*
*Ад шчасця гэтага ў Асла*
*Аж галава кругом пайшла,*
*І вылецяў з яе апошні розум*
*Як пьяны стаў Асёл,*
*Хоць быў цвярозым:*
*Такога ўраз задаў разумнік тону,*
*Такога шуму нарабіў, такога звону,*
*Што не спрачаліся жывёлы*
*ані крышку*
*І палічылі ўсе Асла за шышку.*
*- Ну й розум! Вось дык галава! –*
*- Не раз гучалі славы словы.*
*Другі дык ледзь не цалаваў*
*Капыцікі асловы.*
*А "галава" з мандатам у паўметра*
*Стаіць над яслямі ў хляве:*
*Ніводнай думкі ў галаве –*
*Жуе сабе авёс, псуе сабе паветра.*
*Пры гэтым бедныя жывёлы*
*І чхнуць баяцца без дазволу.*
*Адзін вось толькі Лыска,*
*Калі Асла пабачыць блізка,*
*Заўсёды брэша: "Гаў-гуў-гуў.*
*Цярпець я дурня не магу".*
*Ды Лыска той сядзіць на ланцугу.*
*Кандрат Крапіва.*

# Навіны Гарадзеншчыны

## У ЛІДЗЕ НЕ ЗАРЭГІСТРАВАЛІ БГК

Гарадзкая адміністрацыя Ліды (Гарадзенская вобласьць) адмовіла ў рэгістрацыі мясцоваму прадстаўніцтву Беларускага Гельсынкскага камітэту (БГК). На працягу двух месяцаў чынавенства вывучала рэгістрацыйныя дакуманты, пададзеныя актывістам тамтэйшай філіі БГК Леапольдам Кузьмічом. Падставай для адмовы сталіся фармальныя недапрацоўкі ў статуце БГК. Спадар Кузьміч мае намер і далей працягваць спробы па рэгістрацыі прадстаўніцтва БГК у Лідзе.

## "Прымірэньне Эўропы" ў Горадні

2 і 3 сакавіка ў Гародні пачаў рэалізоўвацца Міжнародны маладзёвы праект пад назвай "Прымірэньне Эўропы". Арганізаваны ён міжнароднай экуменічнай асацыяцыяй "Pax Christi International" і Польскай асацыяцыйя маладых журналістаў "Поліс". Зь беларускага боку арганізатар - грамадзкае аб'яднаньне маладых навукоўцаў "Віт". Галоўнай мэтай дадзенага праекту зьяўляецца стварэньне сеткі арганізацыяў, якія б займаліся абменам і папулярызацыяй супрацоўніцтва паміж моладзьдзю Ўсходняй і Цэнтральнай Эўропе. Усяго ў праграме прымаюць удзел каля 50 чалавек зь дзесяці краінаў Эўропы.

У межах праграмы 2 сакавіка адбыўся круглы стол з удзелам прадстаўнікоў выканаўчай улады, дзе былі прадстаўленыя адміністрацыя Эўрарэгіёну "Нёман", Камітэт па справах моладзі аблвыканкама, Упраўленьне культуры, адукацыі і інш. Таксама ўдзельнікі сустрэчы наведалі некалькі гарадзенскіх школаў, якія будуць займацца міжнародным абменам. Адбыліся і сустрэчы з прадстаўнікамі маладзёвых араганізацыяў Гародні.

## ДОМАШ ПРАЙШОЎ ТЭСТАВАНЬНЕ НА ВЕДАНЬНЕ РАСЕЙСКАЙ МОВЫ

27 лютага на памежным пункце Брузгі быў затрыманы аўтамабіль, на якім у камандыроўку ў Польшчу накіроўваўся адзін з магчымых кандыдатаў на сёлетніх прэзыдэнцкіх выбарах, кіраўнік аб'яднаньня "Рэгіянальная Беларусь" Сямён Домаш. Цягам дзьвюх гадзінаў праводзіўся асабісты дагляд вядомага палітыка і ягонага транспартнага сродку. У выніку, як адзначна ў пратаколе , "была досмотрена верхняя одежда, нательное бельё и обувь гр. Домаша С.Н.". Асобна ў пратаколе падкрэсьлена, што "беседа велась на русском языке, которым гр. Домаш владеет свободно". Далей памежнікі дакладаюць: "В результате личного досмотра гр-на Домаша С.Н. обнаружено: вещей, запрещённых и ограниченных к перемещению через таможенную границу РБ, не обнаружено".

## ТРЭНІНГІ ПА РЭГІЯНАЛЬНАМУ АБМЕНУ БЕЛАРУСЬ - ШВЭЦЫЯ

Маладзёвае грамадзкае аб'яднаньне "Next Stop - New Life" і швэдзкая грамадзкая арганізацыя "Peace Quest" ладзяць сэрыю трохдзённых беларуска-швэдзкіх рэгіянальных трэнінгаў пад агульнай назвай "Экіпаж". Іх мэтай ёсьць стварэньне працоўных груп па падрыхтоўцы і рэалізацыі праграмы міжнароднага рэгіянальнага абмену Швэцыя - Беларусь. 23-25 лютага такі трэнінг прайшоў ў Гародні. Удзел у ім прынялі прадстаўнікі Гарадзеншчыны і Менскай вобласьці. Папярэдне такія сэмінары ўжо прайшлі ў Віцебску і Гомелі. Наступны трэнінг пройдзе 16-18 сакавіка ў Берасьці.

Для ўдзелу ў трэнінгу неабходна зьвярнуцца па тэл.:
(0172) 21-27-22, 21-81-79

## ПРАЦЯГВАЮЦЦА НАПАДЫ НА РЭСУРСАВЫЯ ЦЭНТРЫ

Два дні запар у Гомельскай вобласьці былі зробленыя спробы нападу на два буйнейшыя рэсурсавыя цэнтры вобласьці - Гомельскі цэнтар "Грамадзяскія ініцыятывы" і Рэчыцкі рэсурсавы цэнтар.

У ноч на з 26 на 27 лютага быў учынены напад на офіс рэчыцкага аддзяленьня Гомельскага абласнога аб'яднаньня "Грамадзянскія ініцыятывы". З офісу былі вынесеныя 2 кампутары, якія пасьля міліцыя вярнула. Злачынец напаў на ахоўніка і нават намагаўся яго задушыць. Аднак ахоўнік выраваўся. Разам зь мясцовай міліцыяй яму ўдалося затрымаць злачынцу. На сёньняшні момант вядома, што злачынца - жыхар Гомелю. Іншыя дадзеныя - яго імя і прозвішча - у інтарэсах сьледзтва не паведамляюцца, але ж, як удалося даведацца, гэтая інфармацыя чамусьці не патрапіла ў афіцыйныя зводкі УУС.

На выходных 24-25 лютага невдомыя злачынцы спрабавалі выбіць дзверы ў офісе "Грамадзянскіх ініцыятываў" у Гомелі. Але ж ім гэта не ўдалося, яны толькі пашкодзілі аконнае шкло.

Кідаецца ў вочы сынхроннасьць дзьвюх гэтых падзеяў. Паводле словаў аднаго зь лідараў Рэчыцкага аддзяленьня "Грамадзянскіх ініцыятываў" Аляксандра Зайцава, злачынцы могуць быць звычайнымі крымінальнікамі, аднак яны толькі выканаўцы.

Варта адзначыць, што гэтым падзеям папярэднічала сэрыя фільма "Тайные пружины політікі", паказаная па БТ і прысьвечаная дзейнасьці "Грамадзянскіх ініцыятываў". А месяц таму адзін за адным былі абрабаваныя Берасьцейскі цэнтар падтрымкі грамадзкіх ініцыятываў "Вежа", Верхнядзьвінскі цэнтар "Рубон" і Слонімскі цэнтар "Воля да разьвіцьця".

## ГАЗЭТУ "ДЕ-ФАКТА" ЗНОЎ АБРАБАВАЛІ

Цягам дзесяці дзён магілёўская незалежная грамадзка-палітычная газэта "Дефакто" двойчы была абрабаваная. Уночы з 15 на 16 лютага з офісу, што арэндаваўся рэдакцыяй, быў скрадзены факс. У той жа дзень газэта памяняла офіс. Аднак ужо 26 лютага супрацоўнікі газэты, прыйшоўшы пасьля выходных на працу, пабачылі, што з новага памяшканьня скрадзены адзіны абсталяваны для вёрсткі газэты кампутар. На гэтым жа кампутары захоўваліся матэрыялы для новага нумару "Дефакто", а таксама архіў газэты. Каб патрапіць у памяшканьне газэты, злачынцы праз падбор ключоў адамкнулі двое дзьвярэй, адны зь якіх - мэталёвыя. Апрача асноўнага кампутару і прынтэру, з памяшканьня нічога больш ня скралі, хаця ў офісе знаходзіліся іншыя каштоўныя рэчы.

## АКЦЫЯ АНАРХІСТАЎ СУПРАЦЬ УСЕАГУЛЬНАГА ВАЙСКОВАГА АБАВЯЗКУ

22 лютага ў Менску перад Абласным прызыўным пунктам прайшла акцыя Фэдэрацыі Анархістаў Беларускай супраць усеагульнага вайсковага абавязку. Пачалася акцыя з маскіроўкі засьнежанай мясцовасьці пад летні пэйзаж і расчысткай пляцу перад ваенкаматам зубнымі шчоткамі. Далей была прынятая Прысяга здраднікаў радзімы. Ва ўрачыстай абстаноўцы 7 чалавек спалілі свае прыпісныя аркушы. Падпалкоўнік, які выйшаў на гэты гвалт, запрасіў прызыўнікоў прайсьці для размовы. Тыя згадзіліся, прыхапіўшы з сабой журналістаў. Аднак размова так і не адбылася, бо ўнутры ўжо пачалося сьвяткаваньне. Акцыя працягвалася каля 20 хвілінаў. Большасьць мінакоў адабралі вольны выбар кожнага служыць альбо не служыць.

## ЖОДЗІНСКІЯ ЎЛАДЫ СПРАБАВАЛІ САРВАЦЬ ЗАНЯТКІ НАРОДНАГА УНІВЭРСЫТЭТУ

24-25 лютага ў Жодзіне гарадзкія ўлады спрабавалі сарваць заняткі Народнага Ўнівэрсытэту. Як звычайна, у прызначаны час слухачы пачалі зьбірацца ля мясцовага клюбу пазашкольнага творчага выхаваньня. Гэтым разам да слухачоў прыехалі зь Менску Лявон Баршчэўскі й Валянцін Голубеў. Мяркавалася праслухаць лекцыі ды правесьці адукацыйна-практычныя заняткі па курсах "Палітычная псыхалёгія" ды "Найноўшая гісторыя". Але адміністрацыя паведаміла, што заняткаў ня будзе, бо намесьніца кіраўніка Жодзінскага аддзелу адукацыі ў справах выхаваньня й адукацыі тав. Талмачова пад пагрозаю звальненьня кіраўніцтва клюбу вусна загадала не дапусьціць заняткаў Народнага Ўнівэрсытэту.

Забарона заняткаў Народнага Унівэрсітэту для жодзінцаў не зьявілася нечаканасьцю. Не так даўно тут закрылі беларускамоўны дзіцячы гурточак, што быў утвораны ды існаваў з падтрымкі дзіцячае студыі "Бусьляняты". Па школах Жодзіна доўгі час з Жодзінскага аддзелу адукацыі распаўсюджвалі інфармацыю аб тым, што "Бусьляняты" ёсьць "БНФаўскімі окцябрятамі" і таму іх трэба паўсюдна забараніць. Шмат разоў юнакоў "Ліцьвінаў" правакавалі РНЕ-БПСМаўцы ды міліцыянты, на штаб-кватэру ТБМ імя Ф.Скарыны некалькі разоў былі зьдзейсьненыя напады.

## "ЛЕПШЫ ПРАДПРЫМАЛЬНІК - 2000"

У Магілёве скончыўся конкурс "Лепшы прадпрымальнік-2000". С 150 удзельнікаў з усёй вобласьці былі адабраныя толькі 16. Кожны зі іх адзначыўся ў пэўнай галіне прадпрымальніцкай дзейнасьці: у сфэры вытворчасьці, паслугаў, экспарту і г. д. Лепшыя прадпрымальнікі атрымалі бронзавыя статуэткі Нікі - багіні перамогі. З усіх пераможцаў 10 - прадстаўнікі раёнаў, 6 - магілёўцы. На цырымоніі прысутнічаў міністар прадпрымальніцтва і інвэстыцыяў Анатоль Скорбеж.

Аналягічны конкурс прайшоў у Берасьці. Пераможцы былі вызначаныя ў 18 намінацыях. Апрача таго, тут быў абраны пераможца творчага конкурсу на лепшае асьвятленьне праблемаў разьвіцьця прадпрымальніцтва ў СМІ. У гэтай намінацыі перамог рэдактар аддзелу эканомікі газэты "Берасьцейскі кур'ер" Іван Гоманаў.

## ДАБРАЧЫННАЯ АКЦЫЯ ДЛЯ ЗАЛЕЖНЫХ АД АЛКАГОЛЮ

24 лютага ў менскім касьцёле Сьвятых Сымона і Алены (Чырвоны касьцёл) адбылася дабрачынная акцыя ў дапамогу людзям, якія пакутуюць ад алкагольнай залежнасьці. Такое мерапрыемства праводзілася ўжо трэці раз зь ініцыятывы ксяндза Уладзіслава Завальнюка. Ён зьбіраецца зрабіць такія акцыі штотыднёвымі і праводзіць іх па суботах. З пакутуючымі ад алкагольнай залежнасьці размаўлялі кіраўнік Цэнтру даверу "Надзея і ратаваньне" Станіслаў Каўроў; урачэбную дапамогу аказвалі нарколяг, псыхіятар і стаматоляг; юрыдычныя кансультацыі давала адвакат Вера Страмкоўская, кіраўнік Цэнтра па правах чалавека. Цэнтар даверу "Надзея і ратаваньне" сумесна з Чырвоным касьцёлам плянуюць стварыць у горадзе цэнтар дапамогі людзям, хворым на алкагольную залежнасьць.

## У ЛЁНДАНЕ АДКРЫЛАСЯ БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛКА

Пры Лёнданскім Скарынаўскім цэнтры пачала працаваць беларуская школка для дзяцей. Першыя заняткі ў ёй адбыліся 24 лютага. Напачатку заняткі будуць праходзіць раз на месяц. Дзяцей ва ўзросьце ад 5 год і далей будуць навучаць танчыць, маляваць і паміж гэтым - размаўляць па-беларуску. Надалей таксама будуць праходзіць заняткі па вывучэньню беларускай гісторыі і культуры. На першых занятках прысутнічала каля дзесяці чалавек - усе зь сем'яў, дзе хтосьці з бацькоў беларус. Прычым толькі некалькі зь іх - з самога Лёндану, астатнія - зь іншых месцаў Ангельшчыны.

## У БАРАНАВІЧАХ СТВАРАЕЦЦА РЭГІЯНАЛЬНАЯ КААРДЫНАЦЫЙНАЯ РАДА "СВАБОДНЫ ВЫБАР"

У Баранавічах (Берасьцейская вобласьць) ствараецца рэгіянальная каардынацыйная рада дэмакратычных сілаў "Свабодны выбар". Яна аб'ядноўвае партыі, прафсаюзы і грамадзкія арганізацыі Баранавіцкага рэгіёну. Сярод заснавальнікаў Рады - прадстаўнікі мясцовых арганізацыяў БНФ "Адраджэньне", Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, Свабоднага прафсаюза Беларускага і Свабоднага прафсаюза прадпрымальнікаў, "Маладога фронту", праваабарончага цэнтру "Вясна", "Задзіночаньня беларускіх студэнтаў". Задачамі кааліцыі "Свабодны выбар" ёсьць разьвіцьцё ідэяў дэмакратыі і свабоды ў Беларусі; стварэньне ўмоваў для правядзеньня дэмакратычных выбараў прэзыдэнта краіны; падтрымка адзінага кандыдата на прэзыдэнта ад аб'яднаных дэмакратычных сілаў; каардынацыя дзейнасьці дэмакратычных сілаў Баранавічаў і рэгіёну пры падрыхтоўцы і правядзеньні выбараў прэзыдэнта.

## ЖАНОЧЫ РУХ КАНСАЛІДУЕЦЦА

У Беларусі створаная жаночая кааліцыя "Кансалідацыя жаночага руху ў падрыхтоўы і правядзеньні свабодных дэмакратычных выбараў Прэзыдэнта РБ". У склад кааліцыі ўваходзяць ня толькі юрыдычныя асобы, але і фізычныя (жаночыя ініцыятыўныя групы і жанчыны-лідары). На сёньняшні момант пагадненьне падпісалі прадстаўніцы 31 арганізацыі, зь якіх 14 ня маюць юрыдычнага статусу. Кааліцыя была ўтвораная на базе кругалага стала прадстаўніц жаночых арганізацыяў і жанчын-лідараў, які працаваў ў межах Асамблеі няўрадавых арганізацыяў Беларусі. На наступных паседжаньнях былі распрацаваныя прапановы і прынцыпы дзейнасьці Кааліцыі, зацьверджаны плян арганізацыйнай і тэхнічнай працы. Удзельніцы кааліцыі мяркуюць, што максымальнае прыцягненьне жанчынаў да грамадзкай дзейнасьці будзе спрыяць дасягненьню прагрэсу ва ўсіх кірунках разьвіцьця і пабудовы грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі. Асноўныя прынцыпы Кааліцыі - гэта празрыстасьць дзейнасьці і адкрытасьць на супрацоўніцтва і сумесныя дзеяньні з усімі грамадзкімі арганізацыямі, саюзамі, аб'яднаньнямі.

## У БЕЛАСТОКУ ЗЬЯВІЛАСЯ АСАЦЫЯЦЫЯ БЕЛАРУСКІХ ПАЛІТЫЧНЫХ УЦЕКАЧОЎ

2 сакавіка ў Беластоку была зарэгістраваная Асацыяцыя беларускіх палітычных уцекачоў. Яна ставіць перад сабой мэту даваць прававую, інфармацыйную, псыхалягічную і фінансавую дапамогу людзям, што пакінулі краіну з палітычных матываў. Асацыяцыя будзе таксама дапамагаць усталёўваць кантакты з польскімі і міжнароднымі інстытуцыямі і арганізацыямі.

У заяве, распаўсюджанай арганізацыйным камітэтам Асацыяцыі, выражаецца заклапочанасьць фактам палітычнага перасьледу беларускіх уцекачоў з боку беларускіх уладаў на тэрыторыі Польшчы, а таксама пагрозай прымусовае экстрадыцыі да Беларусі.

Так, баючыся наплыву палітычных уцекачоў зь Беларусі, Дэпартамэнт па справах уцекачоў МУС Польшчы ў апошнія два гады, парушаючы "Канвэнцыю ААН аб уцекачах" і "Закон аб іншаземцах у Польшчы", зацягвае тэрміны разгляду спраў палітычных уцекачоў зь Беларусі на гады. Паводле заявы, прычынай гэтага магло стаць тое, што некаторыя асобы, што шукаюць палітычнага прытулку ў Польшчы, ў пэрыяд разгляду іх спраў вярнуліся ў Беларусь, чым дыскрэдытывалі ўсіх беларускіх апазыцыянэраў, якія чакаюць атрыманьня статусу ўцекача ў Польшчы. Паводле зьвестак арганізацыйнай групы Зьвязу, зараз у Польшчы палітычнага прытулку чакаюць некалькі дзясяткаў беларускіх грамадзянаў.

## ПІНЧУКОЎ КОРМЯЦЬ ДОХЛЫМІ СЬВІНЯМІ

У Пінску разгортваецца скандал вакол гісторыі з рэаліацыяй насельніцтву раёна сьвіной падалі замест мяса. Прадстаўнікі шэрагу мясцовых грамадзкіх арганізацыяў - "Калегіюму", Пінскага аддзяленьня БГК і Пінскай групы Берасьцейскага абласнога аддзяленьня ГА "Праваахоўны цэнтар"Вясна" - накіравалі заяву ў адпаведныя ведамствы з патрабаваньнем правесьці расьследаваньне па факце масавага падзяжу сьвіней, прыняць меры па спыненьні крадзяжоў сьвіной падалі з могільніку і далейшай рэалізацыі насельніцтву. Патрабуецца таксама праінфармаваць жахароў Пінска і раёну пра сытуацыю і меры бясьпекі.

Пра масавы галодны падзеж сьвіней у міжкалгасным прадпрыемстве "Паўднёвы" і выпадкі рэалізацыі падалі жыхарам Пінску і Пінскага раёну стала вядома са сродкаў масавай інфармацыі, прычым, спачатку з замежных. 21 лютага ў швэдзкай газэце "Дагенс Нюхетэр" быў надрукаваны артыкул Марыя Сёдэрбэрг, рэдактара інфармацыйнага сайту www.vitryssland.nu.

Паводле пададзенай у ім інфармацыі, у сьвінагадоўчай гаспадарцы ""Паўднёвая" (ў 20 км на ўсход ад Пінску) з траўня 2000 году пала з голаду як мінімум 25000 жывёлаў. У гаспадарцы не было грошай на закупку корму, а плян па адкорме жывёлаў не адмянілі, таму выйсьце заставалася адно - марыць жывёлаў голадам. Работніцам фэрмы загадалі карміць жывёлаў раз на тры тыдні, Галодныя сьвіньні крычалі. Калі пачаўся падзеж, спачатку дохлых сьвіней скармлівалі яшчэ жывым. Кожны дзень вывозілі прыкладна па 500 трупаў, якія скідваліся непадалёк ад калгасу і не заўсёды засыпаліся зямлёй. Тады ж знайшліся людзі, якія забіралі сьвіныя трупы і прапаноўвалі жыхарам гэтага ж калгасу за надта нізкі кошт. Калі стала відавочна, што калгас ня ўправіцца з захаваньнем паголоўя сьвіней, работнікі фэрмы прапанавалі выкупіць жывёлаў. Аднак ім гэта не дазволілі. Да таго, як пачаўся падзеж, у гаспадарцы было каля 30 000 сьвіней. Зараз іх засталося каля 6 000. Галодны падзеж сьвіней працягваецца і сёлета. Работнікі фэрмы сьцьвярджаюць, што мяса зь ямы зьнікае ўвесь час. Яго прадаюць людзям, якія нічога не падазраюць, перш за ўсё - жыхарам Пінску.

## У БЯЛЫНІЦКІМ РАЁНЕ ЧАКАЮЦЬ НАСТУПУ ГЕПАТЫТУ

Спэцыялісты Бялыніцкага цэнтру гігіены і эпідэміялогіі сёлета прадказваюць значнае павелічэньне захворваньняў на вірусны гепатыт. Пасля дзесяцігадовага перапынку летась гэтая небяспечная інфэкцыя надзвычай актывізвалася на тэрыторыі раёна. Тады аднамомантавыя групавыя захворванні рэгістраваліся ў Запольлі, Старасельлі, Бялынічах, а пасьлядоўныя - у Старасельскай сярэдняй школе. У пераважнай большасьці выпадкаў вірус летась перадаваўся кантактна-бытавым шляхам. Аднак, беручы пад увагу санітарна-тэхнічны стан мясцовай водаправоднай сеткі і шахтных калодзежаў, нізкі ўзровень санітарнай культуры насельніцтва, эпідэміёлагі прадказваюць сёлета і рэалізацыю воднага шляху перадачы вірусу, а таксама даволі высокі ўзровень самой хваробы.

## ЭКАЛЯГІЧНЫ ПІКЕТ У ВІЦЕБСКУ

25 лютага ў Віцебску ля помніка Ўладзімеру Караткевічу прайшоў экалягічны пікет. Ладзілі яго прадстаўнікі экалягічнай ініцыятывы мясцовага кансультатыўнага савета маладзёвых арганізацыяў левай і правай палітычнай скіраванасці, якія аб'ядналася з-за агульнай пагрозы пагаршэньня экалёгіі. Падчас пікету ўдзельнікі зьбіралі подпісы пад патрабаваньнем забараніць будаўніцтва завода па вытворчасьці бэнзіну. Усяго было сабрана больш за сто подпісаў. Пікет суправаджаўся дэманстраваньнем выставы самадзейнага экалягічнага плякату на вялікім пастамэньце помніка, побач разыгрывалася экалягічная віктарына. Пераможцам віктарыны ўручаліся плякаты, падораныя беларускім прадстаўніцтвам ААН.

## АДКРЫТЫ ЛІСТ ДЗЕЯЧОЎ БЕЛАРУСІ

Адкрыты ліст "Аб захаваньні гістарычнага цэнтру Менска" падпісалі дзеячы культуры, вучоныя, спэцыялісты вядучых арганізацыяў, што займаюцца вывучэньнем і ахovай культурна-гістарычнай спадчыны Беларусі. У заяве выказваецца занепакоенасьць станам аховы помнікаў гісторыі і культуры. Асаблівае абурэньне падпісантаў заявы выклікаў плян будаўніцтва шматузроўневай аўтастаянкі па вуліцы Няміга на тэрыторыі Верхняга гораду, які цалкам ёсьць помнікам археалёгіі, горадабудаўніцтва і архітэктуры. Новае будаўніцтва, якое парушае гістарычнае асяродзьдзе, тут забароненае. Нягледзячы на гэта, старшыня камітэту гісторыка-культурнай спадчыны Д.С.Бубноўскі даў дазвол на разьмяшчэньне тут аўтастаянкі. Між тым, паводле ацэнак спэцыялістаў, будаўніцтва стаянкі на тэрыторыі гістарычнга цэнтру Менска пазбавіць магчымасьці аднаўленьня гістарычнага аблічча гэтай часткі гораду. Падпісалі заяву вядомыя навукоўцы - мастацтвазнаўцы, гісторыкі, філёлягі, сярод якіх Э. Зайкоўскі, Г. Сагановіч, М. Крывальцэвіч, Г. Штыхаў і інш.

## "ТУРАЎШЧЫНА: МІНУЛАЕ, СУЧАСНАСЬЦЬ, БУДУЧЫНЯ"

Выйшаў з друку першы выпуск зборніка "Тураўшчына: мінулае, сучаснасьць, будучыня". Зборнік быў падрыхтаваны грамадзкім аб'яднаньнем "Тураўскае навукова-асьветніцкае таварыства" сумесна з Нацыянальнай Акадэміяй Навук Беларусі. У зборнік увайшлі артыкулы навукоўцаў па праблемах этнаграфіі, гісторыі, экалёгіі Тураўскага краю. Выданьне выйшла невялікім накладам, таму пазнаёміцца зь ім можна толькі ў бібліятэцы.

## ЗБОРНІК ПА ПРАБЛЕМАХ СЛАВЯНАЗНАЎСТВА

Цэнтар славяназнаўства Бранскага дзяржаўнага пэдагагічнага ўнівэрсытэту імя акадэміка І. Пятроўскага запрашае ўсіх ахвотных прыняць удзел у трэцім выпуску зборніка "Проблемы славяноведения", які плянуецца да выхаду ўвосень 2001 году. Праблематыка зборніку - гісторыя, культура, лінгвістыка і літаратуразнаўства славянаў. Да друку прымаюцца дасьледчыцкія артыкулы і публікацыі матэрыялаў аб'ёмам да паловы друкаванага аркуша на ўсіх эўрапейскіх мовах. Тэрмін прадстаўленьня тэкстаў - да 1 траўня. Працы дасылайце на адрас: 241036, Россия, Брянск, ул. Бежицкая, 14.

## УСЯ БІБЛІЯ ЗЬЯВІЦЦА ПА-БЕЛАРУСКУ

У хуткім часе мае выйсьці поўнае выданьне Бібліі ў беларускай мове. Задачу ажыцьцявіць гэтае выданьне ўзялі на сябе менскія пратэстанцкія цэрквы. Пераклад зроблены айцом Уладзіславам Чарняўскім. Пачаў ён гэтую працу ў 1968 годзе, а скончыў у сярэдзіне 80-х, аднак дагэтуль пераклад заставаўся ў рукапісе. Пераклад прадстаўляе вялікую каштоўнасьць, бо зроблены сьвятаром, які мае грунтоўную тэалягічную адукацыю і ў той жа час ёсьць носьбітам жывой беларускай мовы, вучнем адраджэнцаў 30-х гадоў. Гэта адзіны пераклад, дзе сабраныя як протакананічныя, так і дэўтэракананічныя тэксты кніг Старога Запавету.

На сёньняшні дзень Біблія перакладзеная на 586 моваў сьвету. На думку выдаўцоў, поўнае выданьне Бібліі стане важкім унёскам у справу беларускага Адраджэньня. Дагэтуль поўнага тэксту Бібіліі не было. У 1992 і 1995 годзе зьявіліся пераклады Новага запавету Анатоля Клышкі і Васіля Сёмухі. Найбольш вядомы пераклад Новага Запавету быў зроблены Л. Дзёкуць-Малеем і А. Луцкевічам. Ён перавыдаваўся тройчы - у 1931, 1948 і 1985 гадах.

**Шаноўныя патрыёты Беларусі!**

**Набліжаецца час, калі ад кожнага запатрабуецца адданая праца дзеля Бацькаўшчыны. Свае заявы на ўступленне ў Партыю БНФ накіроўвайце на адрас газеты, перадавайце асабіста, ці праз сяброў БНФ або пасылайце на адрас: 220005, г. Менск, вул. Варвашэні, 8, Управа Сойму Партыі БНФ.**

Ва Ўправу Сойму Партыі БНФ грамадзяніна Беларусі
______________________________
______________________________
______________________________
які нарадзіўся "____" ____________ 19___ г., жыве па адрасе______________________
______________________________
род заняткаў______________________
тэлефон______________________

### З А Я В А

Прашу прыняць мяне ў Партыю БНФ. Праграмныя палажэнні БНФ "Адраджэньне" падзяляю. Абавязуюся выконваць Статут Партыі БНФ.

______________ (дата)

______________ (подпіс)

Заснавальнікі: Лідская гарадская і Лідская раённая рады БНФ "Адраджэньне". Рэдактар Ліда Кісялевіч

Адрас для допісаў: 231300 г. Ліда - 2 п/с 7

Аўтары цалкам адказныя за праўдзівасць і дакладнасць дасланай інфармацыі. Наклад 250 асобнікаў. Фармат А-4

Газета распаўсюджваецца на правах нутраной дакументацыі Надрукавана на абсталяванні Свабоднага прафсаюза Беларусі